


# Покліч Волі плюс

ЛЮТЫ №1(11) 2005

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА


● ***Верш нумару***

## МЛЫН

*Меле млын высокі.*
*На сівым вяку*
*Меле нашу долю,*
*Меле на муку.*

*Засыпаюць ў жорны*
*Жыта-Беларусь,*
*Перамелюць з горам,*
*З болем ператруць.*

*Млынары чужыя,*
*Варажосьць наўкруг,*
*Адсяваюць сіты*
*Беларускі дух.*

*Меле млын высокі*
*Ўдзень і уначы,*
*Некаму прыйдзецца*
*Горкі хлеб пячы.*

*Ларыса Геніюш*



# ВЫБАР НА КАРЫСЬЦЬ СВАБОДЫ

***...гэта прыгожая аранжавая краіна, у якой мноства свабодных людзей, і яны вельмі прыгожа, свабодна і аранжава перамаглі шэрае постсавецкае зло.***
***Юры Андруховіч.***

Пасьля працяглага перарыву рэдакцыя незалежнай беларускай газэты "Покліч Волі" нарэшце ўзнаўляе выданьне чарговага нумару.

Добра ўсьвядамляючы працэсы, што адбываюцца у нашай краіне, мы мусім падаваць нашым чытачам інфармацыю альтэрнатыўную афіцыйнай. За часамі Лукашэнкі зьнішчэньне ўсяго беларускага і праўдзівага набыло страшэнны размах. Той, хто не чытае "Нашай Нівы", "Народнай Волі", "Згоды", "Салідарнасьці" і іншых апазіцыйных газет жыве ў атмасьферы татальнай хлусьні, якая лавінай ліецца на яго з афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі. Ці многа хто чуў пра закрыцьцё Беларускага гуманітарнага ліцэю (навучэнцы якога зараз вымушаны вучыцца па кватэрах), пра закрыцьцё газэтаў, нязгодных з палітыкай рэжыму, пра зьнішчэньне людзей, пра суды над змагарамі за дэмакратыю, пра страшэнную эміграцыю моладзі, якая не бачыць для сябе перспектывы у сваёй краіне...

Аднак падзеі апошняга часу пасяляюць у нашых душах зярняты надзеі. Рэвалюцыя ружаў у Грузіі і памаранчавая рэвалюцыя ва Украіне кардынальна зьмянілі постсавецкую рэчаіснасьць нашых суседзяў. Грузіны і ўкраінцы дасьпелі да таго, каб канчаткова разьвітацца з савецкім мінулым, што непад'ёмнымі кайданамі вісела на іхніх нагах, замінаючы натуральнаму руху да дэмакратычнага грамадства.

З еўрапейскіх народаў толькі беларусы, ці не па самыя вушы загразлыя ў навязаных ім комплексах, і дасюль, як чорт ладану палохаюцца ўсялякіх зьменаў.

Пад час украінскіх падзей з вуснаў беларускіх мужчынаў можна было часта пачуць абвінавачваньні ў бок "недалугіх" суседзяў. Маўляў, хахлы нават прэзідэнта выбраць не могуць, марнуюць народныя сродкі, развальваюць эканоміку, павучыліся б у нас. БТ ці не кожны дзень падлічвала чужыя страты і абяцала эканамічныя праблемы. Прагнозы аднак не збыліся

Кабеты ацэньвалі украінскія падзеі з іншага боку: Януковіч і прыгажэйшы, і больш гожы, і мае беларускія карані. Жаноцкую прыхільнасьць да афіцыйнага кандыдата можна было патлумачыць тым, што на падсвядомым узроўні яны адчуваюць безумоўную нутраную еднасьць з "улюбёнцам усіх беларускіх жанчынаў".

Мужчыны за такімі сьцьверджаньнямі імкнуцца схаваць сваю няздольнасьць да падобнага змаганьня за права "людзьмі звацца". Жанчыны — глыбінную крыўду на тое, што ім наканавана жыць з такімі мужчынамі.

Савецкая ментальнасьць не дазваляе бальшыні рабіць сьвядомы выбар сваёй будучыні ў дэмакратычным сьвеце. Савецкасьць даўно стала надзвычай утульнай схованкай для народа, які не пасьпеў набыць завершанага нацыянальнага аблічча і таму ў савецкай рэчаіснасьці з апошняга неспадзявана для сябе ў перспектыве мусіў стаць першым насельнікам камуністычнага раю. Аднак вясёлкавыя мроі не збыліся, і крыўда за гэтую несправядлівасьць на ўвесь сусвет мусіла зрэалізавацца ў чарговай утопіі.

Месія з'явіўся і народ аддаў яму ўсё: права на маёмасьць, права на свабоду, права на будучыню сваіх дзяцей, права на асабістую адказнасьць за свае грамадзянскія ўчынкі. Месія казаў зразумелаю моваю, абяцаў жыццё пасьля сьмерці ў асобна ўзятым раі і нічога не патрабаваў у замен, бо ўсё што шануюць іншыя народы тутэйшыя людцы ўжо даўно паааддавалі самі. Дзесяць гадоў райскага адхланьня аднак не прынесьлі палёгкі, жыццё не палепшылася па сутнасьці, ды і знешне зьмянілася да лепшага далёка не для ўсіх.

З вуснаў тутэйшых украінцаў часам можна пачуць сьцьвярджэньне, што беларусы няздатныя на сьвядомы, нават гарантаваны законамі пратэст супраць любой улады, у тым ліку і супраць злачыннай. Лёкайскі дух, памежны індывідуалізм, гіпертрафаваны інстынкт самазахаваньня, любым коштам — абы не чапалі, пазбаўляюць беларусаў мець агульнанацыянальныя інтарэсы, а значыць адстойваць іх разам.

Каб абвергнуць зьнеэважальнае для любога нармальнага беларуса сцверджаньне, у нас ёсць яшчэ час, час для ўсьведамленьня тых працэсаў, што зараз адбываюцца на постсавецкай прасторы.

Прысутныя на інаўгурацыі прэзыдэнта Ючшанкі беларусы адзначаюць адзін невялікі факт: у сьвяточным моры ўсеагульнай радасьці нейкай чорнай плямай маячыў твар старшыні нацыянальнага сходу Уладзімера Канаплёва. Што так засмучала гэтага чалавека зразумела і без словаў. Відавочнасьць падобнай перспектывы для Беларусі не дае спакою не толькі Канаплёву.

На інаўгурацыі прэзідэнт Украіны сказаў, што "украінцы стануць сумленнай нацыяй", і яны ўжо пачалі крочыць у гэтым кірунку. Беларусы, як заўжды плятуцца ў хвасьце гістарычных зьменаў, і такія пытаньні як быццам бы іх не хвалююць, але час яшчэ не страчаны. Выбар на карысьць свабоды — гэта найлепшы крок, які можа зрабіць кожны з нас у сваім жыцьці.

***Рэдактар.***

# АКАДЕМИК ВОЙТОВИЧ: ЛЮДИ ДОЛЖНЫ ЗНАТЬ, ЧТО ЛУКАШЕНКО ПРОИГРАЛ!

**Александр КЛАСКОВСКИЙ, журналист**

Тех, кто против третьего срока Лукашенко, на самом деле в Беларуси большинство. В этом убежден академик Александр Войтович, бывший спикер Совета Республики и лидер гражданской инициативы «За справедливые выборы».

Важнейшую задачу инициативы и всех демократических сил он видит в том, чтобы довести до массы сограждан этот вывод: Лукашенко впервые проиграл электоральную кампанию, и он должен уйти не позже 2006 года.

Когда Войтовичу накануне референдума предложили возглавить оргкомитет инициативы, он решился не сразу. Взвешивал «за» и «против». Тем временем кто-то из журналистов заметил, что академику «предлагают билет на ушедший поезд».

Свое гражданское мужество Войтович доказал уже раньше, когда на посту спикера дерзнул - немыслимое в Беларуси дело! - критиковать самого президента. Просто в случае с плебисцитом он осознавал, что интеллигенция спохватилась поздновато. Паровоз референдума уже мчался на всех парах к заранее предначертанному результату.

И все же он принял вызов. И не считает сегодня, что зря «лег на рельсы».

«Именно инициатива во весь голос заявила о нелегитимности вопроса, вынесенного на референдум, - отметил академик в интервью «Белорусской неделе». - Мы задали тон. И на этом тезисе во многом базировались потом выводы независимого международного наблюдения».

Кроме того, по его словам, инициатива «За свободные выборы» заострила внимание на том, что по всей вертикали, в каждую участковую комиссию были фактически спущены разнарядки, какими должны быть официальные итоги выборов и референдума.

Независимое наблюдение, по его словам, подтвердило, что нужный результат «рисовался» на участках грубо, без учета реального расклада голосов. Есть множество свидетельств фальсификации - и прямых, и косвенных.

Даже на удалении от стола с бюллетенями во время их подсчета было видно, например, что стопки «за» и «против» прирастают соизмеримо. А потом согласно протоколу оказывалось, что за Лукашенко - 80 процентов.

Или вдруг доставали из ящика целую кипу явно сложенных одним махом бюллетеней. «Я как физик могу заявить, что по законам этой науки бюллетени, вброшенные по одному, естественным путем, не могут образовать такую аккуратную кипу», - с грустной улыбкой резюмирует Александр Войтович.

Главный же аргумент, добавляет он, - это социологические данные. За пару недель до плебисцита опросы независимых структур показывали, что «за» - лишь около 40 процентов электората. Экзит-пол, проведенный Балтийской службой Института Гэллапа, дал цифру в 48,37 процента.

«Опять-таки как физик я знаю, что кроме случайной ошибки в любом опыте может присутствовать ошибка системная. То есть когда прибор в принципе «привирает», - говорит далее академик. - Я задавал этот вопрос нашим авторитетным независимым социологам. И они сказали: да, такая системная ошибка есть и в наших опросах. А именно: часть людей просто боится сказать, что они - против президента. Мне даже назвали опытную величину этой ошибки - 4 процента. То есть на самом деле за третий срок Лукашенко - примерно 44 процента белорусов. Соответственно, 56 процентов, большинство, к вопросу о продлении его правления относится отрицательно».

Этот вывод лидер инициативы «За свободные выборы» считает фундаментальным. На этой основе, говорит он, надо строить дальнейшую работу с населением. При всей ограниченности доступа к СМИ демократы должны любыми доступными путями объяснять массе, что на самом деле Лукашенко референдум проиграл.

Причем он проиграл электоральную кампанию впервые за десять лет. Лукашенко честно победил в 1994 году. В 2001-м были подтасовки, и все же социологические данные засвидетельствовали, что действующему президенту отдали голоса около 54 процентов избирателей. Сейчас, несмотря на невиданную промывку мозгов, он не набрал и половины!

Войтович считает, что доведение этой информации до соотечественников способно поднять дух тех, кто испытал после оглашения официальных итогов 17 октября моральную травму. Правда о «счете игры» способна разорвать пресловутую спираль молчания. Ту, о которой много говорят отечественные аналитики. Ту, которая заставляет немалую часть противников диктатуры прятать свое мнение и «быть как все».

«Надо, чтобы люди, голосовавшие 17 октября против, четко знали: их - большинство», - резюмирует руководитель оргкомитета инициативы «За свободные выборы».

Он не считает, что участие оппозиции в парламентских выборах было ошибкой. Даже если результат был предрешен. Избирательная кампания, подчеркивает Войтович, - это всегда дополнительная возможность общения с народом, доведения своей точки зрения до широких масс.

Он готов часами, обложившись фолиантами со статистической цифирью, в строго научной манере доказывать, что пресловутое «белорусское чудо» - это в лучшем случае топтание на месте на фоне завидной динамики соседних стран.

«Мы уже проигрываем государствам Балтии, России, Казахстану, если сравнивать показатель ВВП на душу населения по паритету покупательной способности. В 2006 году нас может обойти Украина. Дышат в затылок Армения, Азербайджан. По индексу человеческого развития нас тоже опередили уже четыре постсоветские страны, хотя десять лет назад Беларусь была по этому показателю выше всех в бывшем Союзе», - говорит академик, листая увесистый справочник.

Но достаточно ли осознания того, что мы живем хуже соседей и отстаем все больше, чтобы народ стал массово протестовать против курса Лукашенко?

Академик Войтович обращает внимание на то, что белорусская диктатура все активнее использует методы устрашения. Уже полгода в неволе Михаил Маринич, зверски избит лидер ОГП Анатолий Лебедько... Это попытки запугать всех несогласных, говорит Войтович. И добавляет: «В Южной Корее то и дело какие-то волнения, а вот в КНДР - полная тишь. Хотя уровень жизни в этих странах просто несравним. А разве митинговали в Ираке при Хусейне?».

При всей своей грустной иронии мудрого человека Александр Войтович верит в перемены. И полагает, что внукам Лукашенко будет стыдно за деяния предка. В какой-то мере спасти репутацию нынешний президент может только отказом баллотироваться в 2006 году, полагает бывший спикер верхней палаты.

И еще он надеется на развитие гражданского общества. Степенью его вызревания будут определяться шансы на коренные перемены в стране. По мнению академика, именно в развитие гражданских структур должны вкладывать сегодня главные усилия борцы за демократическую Беларусь.

# КОЛА ДЗЁН

Час рушыцца даволі хутка. За зімовымі вечарамі надыходзіць сонечная вясна. Адыходзячы ў нябыт люты 2005 года пры ўсёй традыцыйнасці падзей — лыжня 2005 г., пытанні падрыхтоўкі да вяснавой кампаніі, дзень Святога Валянціна і абаронца Айчыны — мае свае асаблівасці. Галоўнае з'явай лютага стала супрацьстаянне індывідуальных прадпрымальнікаў і улады па пытанню падатку на дабаўленую вартасць. Бюракратычна і бязглузда падрыхтаваны падатак у 18% стаў каталізатарам масавых акцый прадпрымальнікаў Беларусі па яго адмене.

На Беларусі супраць яго выступілі прадпрымальнікі, але яго дзеянне накіравана супраць кожнага грамадзяніна Беларусі. Ніводны вытворца ў Расіі не зменшыў кошт сваёй прадукцыі на 18%, але усе гандляры Беларусі павінны заплаціць гэтыя 18% яшчэ ў падатковыя органы на месцах. Вожыку зразумела, што гэты датковы падатак неабходна укласці яшчэ раз у кошт расійскіх тавараў. І усе спажыўцы вымушаны са сваёй кішэні аплочваць гэты падатак. Але жыццёвы прынцып — мая хата з краю — не дазваляе зразумець масам, што улады ў чарговы раз залезлі ў кішэні грамадзян нічога туды не паклаўшы. Грамадзяне моўчкі будуць мацюкацца пабачыўшы рост коштаў на 20-30 %, слухаць салодкія спевы дзяржаўных агітатараў на радыё і тэлебачанні пра мудрую дзяржаўную палітыку і штодзень бачыць — асабліва ў правінцыі — шалёныя кошты пры мізэрных заробках. І дзесьці вельмі далёка будзе варушыцца думка — "Не тым шляхам крочым, таварышы!"

У дэмакратычным асяродку працягваліся дзеянні па вылучэнню адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнскія выбары 2006 году. На жаль, самаму апазіцыйнаму кіраўніцтву бракуе дэмакратычных метадаў кіравання, але працэс па падрыхтоўцы да выбараў ідзе. У лютым з'явіліся адносна новыя прэтындэнты на лідэраў апазіцыі — Аляксандр Мілінкевіч і Аляксандр Казулін. Пры гэтым Мілінкевіч прадстаўляе сябе, як лідэра рэгіянальных актывістаў, а Казулін выступіў каардынатарам грамадзянскай ініцыятывы "Воля народа". Асвятленню гэтых з'яў і прысвечаны наш лютаўскі агляд падзей у краіне.

# ПЕРШЫ ВЫНІК СТРАЙКУ – ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ ДАМАГЛІСЯ АД УРАДУ СТВАРЭНЬНЯ ПРАЦОЎНАЙ ГРУПЫ Ў ПРАБЛЕМЕ З ПДВ

У Менску 10 лютага адбыўся стыхійны мітынг дробных прадпрымальнікаў, якія патрабавалі ад уладаў адмены для іх падатку на дададзеную вартасьць. Асноўныя гандлёвыя пляцоўкі сталіцы ў гэты дзень не працавалі на знак падтрымкі ўсеагульнага страйку прадпрымальнікаў. Зь пераходам на новы прынцып спагнаньня ўскосных падаткаў у гандлі з Расеяй кошты на тавары на рынках аўтаматычна ўзрастаюць на памер стаўкі ПДВ, і ў гандляроў могуць узьнікнуць цяжкасьці зь іхнай рэалізацыяй. За адмену гэтага падатку падпісаліся каля 30 тысяч чалавек.

Ня менш за 2 тысячы дробных бізнэсоўцаў зь Менску, а таксама іншых гарадоў апоўдні сабраліся каля дэпартамэнту прадпрымальніцтва Мінэканомікі. Яны настойвалі на сустрэчы з прадстаўнікамі міністэрства. Асноўнае патрабаваньне — адмена ПДВ для індывідуальных прадпрымальнікаў.

Прадстаўнікі Мінэканомікі не захацелі сустракацца з прадпрымальнікамі — адпаведны пісьмовы адказ па сваю прапанову зладзіць круглы стол атрымалі гандляры. Тады прадпрымальнікі рушылі да Міністэрства падаткаў і збораў. Яны скіраваліся да ўрадавага будынку на вуліцы Савецкай, 9. Туды да пратэстантаў выйшаў віцэ-прэм'ер Андрэй Кабякоў ды выступіў перад натоўпам. Ён заявіў пра немагчымасьць адмены ПДВ для індывідуалаў.

Пасьля выступу віцэ-прэм'ера ў Міністэрства падаткаў і збораў на перамовы запрасілі восем прадстаўнікоў прадпрымальніцкага руху. Перамовы доўжыліся амаль тры гадзіны. У гэты час на прыступках урадавага будынку адбываўся мітынг.

**Бакі дамовіліся, што будзе створаная працоўная група, якая вырашыць праблему з ПДВ да 20 лютага. У працоўную групу ўвойдуць прадстаўнікі ўраду і прадпрымальніцкага аб'яднаньня "Пэрспэктыва".**

# У ВІЦЕБСКУ ПЕРАД ПЕРШАМАЙСКІМ РАЙВЫКАНКАМАМ – КАЛЯ 1,500 ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

Каля паўтары тысячы віцебскіх прадпрымальнікаў напісалі заявы пра тое, што гатовыя спыніць сваю дзейнасьць, калі ня будзе скасаваная апошняя пастанова пра падаткі на дабаўленую вартасьць. У адказ прадстаўнікі ўладаў выклікалі супраць іх АМОН і міліцыю.

Да агульнага страйку далучыліся прадпрымальнікі ўсіх трох віцебскіх кірмашоў і большая частка крытых гандлёвых цэнтраў.

А 10-й раніцы прадпрымальнікі пачалі зьбірацца каля райвыканкамаў, дзе яны зарэгістраваныя, каб падаць заявы пра тое, што яны адмаўляюцца працаваць ва ўмовах цяперашняй сістэмы падаткаабкладаньня.

Прадстаўнікі прафсаюзу "Пэрспэктыва" напярэдадні страйку зьвярталіся ў райвыканкамы ды папярэджвалі, што ахвотных падаць заяву будзе шмат. Але высьветлілася, што чыноўнікі ўсур'ёз да гэтага папярэджаньня не паставіліся, і таму ў фае Першамайскага райвыканкаму сабраўся абураны натоўп з некалькіх соцень прадпрымальнікаў.

Супраць абураных прадпрымальнікаў супрацоўнікі Першамайскага райвыканкаму выклікалі некалькі нарадаў міліцыі і байцоў АМОНу, якія заблякавалі ўваходы і сталі прапускаць у будынак па пяць чалавек.

Нешта падобнае адбывалася і ў іншых выканкамах: сотні людзей мерзьлі на вуліцы пад наглядам міліцыянтаў з дубінкамі, але ўсё ж чакалі свае чаргі, каб падаць заяву.

У якасьці камэнтару да сёньняшняе акцыі начальнік абласной управы прадпрымальніцтва Валянцін Цьвяткоў сказаў, што ня бачыць вялікае бяды ў тым, што прадпрымальнікаў з 1-га сакавіка можа істотна паменшаць. Аднак прадпрымальнікі спадзяюцца, што з дапамогай сёньняшняга страйку набалелыя праблемы ўсёткі ўдасца вырашыць.

**Браніслава Станкевіч.**

# АЛЯКСАНДАР КАЗУЛІН: "МЫ ПАВІННЫ ВЫЗВАЛІЦЬ НАША ГРАМАДЗТВА АД СТРАХУ"



**Аляксей Знаткевіч, Прага**

Выступаючы 22 лютага на нарадзе ў пытаньнях барацьбы з карупцыяй, Аляксандар Лукашэнка зрабіў чарговыя абвінавачваньні на адрас апазыцыі і Захаду. У прыватнасьці, ён заявіў: "Мы ведаем, што вядуцца пошукі людзей, быццам не зьвязаных ні з апазыцыяй, ні з уладай, каб іх як незалежных выставіць для захопу ўлады". Магчыма, што гэта было сказана пра былога рэктара Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Аляксандра Казуліна. Менавіта яго ў мінулыя выходныя прапанавалі на ролю лідэра аб'яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі, якую цяпер спрабуюць стварыць чальцы Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) і Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады.

Казуліна звольнілі з пасады ў 2003 годзе. Некаторыя аналітыкі тлумачылі перасьлед Казуліна тым, што пераважная большасьць студэнтаў БДУ прагаласавала на выбарах прэзыдэнта супраць Аляксандра Лукашэнкі.

Мы зьвязаліся са спадаром Казуліным, і першае пытаньне да яго – **чаму былы рэктар вырашыў пайсьці ў палітыку?**

(Казулін: ) "Па-першае, трэба разумець, што такое палітыка, а што – імкненьне змагацца за свой народ і сваю краіну. У дзень абаронцаў Айчыны, я магу проста і ясна сказаць, што сваю Айчыну трэба любіць, трэба жадаць і ўмець яе абараняць. Але я ўжо казаў, што стоячы на каленях гэта зрабіць проста немагчыма. Многія гавораць, што ўвесь корань зла – у адным чалавеку, але я лічу, што многія нашы праблемы – у нас саміх. Трэба мяняць сьвядомасьць у грамадзтве, трэба мяняць тую сытуацыю, якая на сёньня склалася. Сьвядомасьць людзей заціснутая страхам, які, як іржа, разьядае асобы, самастойнасьць, творчасьць, ініцыятыву. Мы павінны вызваліць наша грамадзтва ад страху. Мы павінны ўсім паказаць, што ёсьць народ, вялікая і магутная сіла. Гэта ня быдла, якім можна паганяць. Воля народу мае быць пачутая. Любыя рэпрэсіі супраць народу заўжды вядуць да сур'ёзных наступстваў".

**(Карэспандэнт: ) "Ці будзеце вы вылучацца кандыдатам у прэзыдэнты?"**

(Казулін: ) "Гаварыць нешта загадзя немагчыма. Кандыдат у прэзыдэнты павінен атрымаць народную падтрымку. Ён не павінен зьяўляцца з паветра. Я ўвогуле супраць таго, каб людзі вылучалі сябе самі. Я за тое, каб справамі даводзіць сваю адпаведнасьць. Калі лю-дзі ў мяне павераць, калі яны за мной пойдуць, тады нешта будзе рэальна".

(Карэспандэнт: ) "Увечары 22 лютага стала вядома пра звальненьне з працы выкладчыкаў БДУ Алега Лойкі і Алеся Пашкевіча, які зьяўляецца старшынём Саюза пісь-меньнікаў Беларусі. Пра звальненьне Радыё Свабода паведаміў сам Алесь Пашкевіч. Паводле яго, прычына звальненьня – подпісы абодвух выкладчыкаў пад Зваротам да беларускага народу, апублікаваным ў "Народнай волі" ў мінулую суботу, у якім дэкляруецца стварэньне новага грамадзкага руху "Воля народу". Першым пад гэтым зваротам падпісаўся якраз былы рэктар БДУ Аляксандар Казулін. Я спытаўся ў яго: **ці можна нейкім чынам абараніць людзей, звольненых з працы?"**

(Казулін: ) "Мы сёньня думаем пра гэта. Паверце, гэтыя людзі не застануцца па-за справай, і паверце, што мы іх здолеем абараніць. Мы цяпер абдумваем мэханізмы, як гэта зрабіць. Але тое, што ўлада сёньня так пасьпешліва рэагуе, звальняючы людзей, ціснучы на псыхіку, на дзяцей, на сваякоў – гэта абсалютна ненармальна. Бо гэты зварот падпісалі людзі з самых розных групаў насельніцтва – ад даярак, таксістаў, рабочых, людзей з калгасаў і саўгасаў да інтэлігенцыі, навукоўцаў, пісьменьнікаў, мастакоў, скульптараў. Тут сапраўды ўвесь спэктар нашага народу. І калі гэты народ пачынаюць труціць, ганяць, узьнікае пытаньне – чаму ўлада, якая кажа, што карыстаецца падтрымкай 80 працэнтаў народу, баіцца гэтага волевыяўленьня?"

**(Карэспандэнт: ) "Чаму былы кіраўнік Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту не карыстаецца беларускай мовай?"**

(Казулін: ) "Ведаеце, я вучыўся ў спэцыялізаванай "ангельскай" школе, і калі я вучыўся, на тыдзень было 10 гадзін ангельскай мовы (у тым ліку гісторыі і літаратуры), а беларускай мовы не было ніводнай гадзіны. Беларускай літаратуры была толькі адна гадзіна. У мяне не было асяродзьдзя беларускай мовы. Цяпер гэтае асяродзьдзе зьяўляецца, і я, натуральна, буду размаўляць на беларускай роднай мове".

**(Карэспандэнт: ) "Можна пачуць, што калі Вы кіравалі БДУ, студэнтаў перасьледавалі, у тым ліку выключалі з унівэрсытэту, за палітычную дзейнасьць..."**

(Казулін: ) "Ведаеце, калі я быў рэктарам, да мяне прыязджалі ўпаўнаважаныя ў правах чалавека, памойму, з Амэрыкі. Яны таксама атрымалі запіску, што такое ёсьць. Мы далі ім магчымасьць пайсьці ва ўсе студэнцкія аўдыторыі, куды яны хочуць. Пасьля двух дзён свабодных пошукаў яны прыйшлі і папрасілі прабачэньня, сказалі, што ня маюць ніякіх пытаньняў да рэктара".

# БЕЛАРУСКІЯ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫ ПРЫЗНАЧЫЛІ СВАЁ АБ'ЯДНАНЬНЕ НА 19 САКАВІКА

Адпаведныя рашэньні роўна за месяц да гэтага тэрміну былі прынятыя на паседжаньні Цэнтральнага камітэту Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) і на канфэрэнцыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, якія адбыліся 19 лютага. Аднак падобна на тое, што аб'яднаньне можа і не адбыцца.

Аб'яднаўчы працэс беларускіх сацыял-дэмакратаў, якія цяпер раскінутыя па шасьці ці нават сямі партыях, цягнецца ўжо ня першы год. І вось нарэшце дзьве найбуйнейшыя партыі гэтага лягеру – Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, якой кіруе Станіслаў Шушкевіч, і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), якую пасьля Міколы Статкевіча ачольвае Анатоль Ляўковіч, падышлі да рэальнага аб'яднаньня.

19 лютага актывісты абедзьвюх партыяў правялі ў суседніх залях свае партыйныя мерапрыемствы. Першы намесьнік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Уладзімер Нісьцюк так пракамэнтаваў вынікі форуму сваіх аднапартыйцаў:

(Нісьцюк: ) "Наша партыя прыняла ўсе тыя рашэньні, якіх мы цяпер і чакалі. Па-першае, зьмененая назва партыі – з яе выключана слова "Народная", і адпаведная папраўка ўнесеная ў



статут. Такім чынам, гэта робіць нас роднай нават па назьве Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамадзе. Другое – прыняты праект дамовы аб аб'яднаньні. Трэцяе – людзі ўбачылі і падтрымалі новага чалавека, які зьбіраецца быць адным з прэтэндэнтаў на пасаду кіраўніка новай аб'яднанай партыі".

Намесьнік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Аляксей Кароль зьвярнуў увагу на тое, што 19 лютага адбылася першая партыйная канфэрэнцыя:

(Кароль: ) "Раней яны не склікаліся ў гісторыі БСДГ ніводнага разу. Па сутнасьці, гэта ступень перад зьездам. Такім чынам, сёньняшняя партыйная канфэрэнцыя цалкам падтрымала дакумэнты аб аб'яднаньні дзьвюх партыяў у адну партыю і прыняла канкрэтны мэханізм гэтага аб'яднаньня".

У канфэрэнцыі ня ўдзельнічаў старшыня БСДГ Станіслаў Шушкевіч, і паседжаньне праходзіла пад кіраўніцтвам Мечыслава Грыба. Спадар Шушкевіч на некалькі хвілінаў зайшоў у залю і патлумачыў прысутным, што яго запрасілі на паседжаньне Цэнтральнай рады партыі, а не на канфэрэнцыю, у якой, зь яго пункту гледжаньня, удзельнічаюць "няведама хто".

Алег Трусаў сьцьвярджае, што, згодна з партыйным статутам, канфэрэнцыя ёсьць больш высокай ступеньню, чым Цэнтральная рада.

На паседжаньні ЦК і на канфэрэнцыі выступіў былы рэктар Белдзяржунівэрсытэту Аляксандар Казулін. Ён абвясьціў аб сваім жаданьні ўзначаліць аб'яднаную сацыял-дэмакратычную партыю і адказаў на мноства пытаньняў.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ СХОДУ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

Мы, удзельнікі сходу кандыдатаў у дэпутаты, якія прымалі ўдзел у парламенцкіх выбарах 2004 года як кандыдаты ў дэпутаты заяўляем аб наступным:

1. Выбарчая кампанія 2004 года пацвердзіла імкненне большасці беларускага грамадства да цывілізаваных дэмакратычных пераменаў і непрыняццё існуючага рэжыму.

Падрыхтоўка да выбараў і рэферэндуму, як і іх правядзенне, адбываліся пры выбарчым заканадаўстве, якое не адпавядае агульнапрынятым міжнародным нормам. Зафіксаваныя татальныя парушэнні нават існуючага заканадаўства. Пытанні, якія былі вынясены на рэферэндум, не адпавядаюць Канстытуцыі і таму з'яўляюцца незаконнымі.

Мы вітаем пазіцыю міжнароднай супольнасці, якая не прызнала сфальсіфікаваных вынікаў выбараў і рэферэндума ў Беларусі і асуджаем пазіцыю афіцыйных колаў тых краінаў, якія іх прызналі.

Выбарчая кампанія 2004 года разам з тым паказала, што ў грамадстве ёсць шмат невыкарыставаных рэзерваў, з якімі трэба працаваць, далучаць людзей да актыўнай дзейнасці дзеля агульнай мэты – будучай пасяховай прэзыдэнцкай кампаніі і перамогі ў ёй.

2. Мы вітаем працэс кансалідацыі дэмакратычных сілаў Беларусі.

Мы падтрымліваем стратэгію вылучэння адзінага кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі ад дэмакратычных сіл.

Мы заяўляем, што будзем і далей весці працу з выбаршчыкамі ў сваіх акругах, адпаведна агульнай стратэгіі і праграме аб'яднаных дэмакратычных сілаў, каардынуючы сваю дзейнасць паміж сабою, з выбарчымі штабамі і з суб'ектамі кааліцыі. Мы ўпэўненыя, што толькі адзінства сілаў і скаардынаванасць дзеянняў дапамогуць грамадзянам Беларусі асэнсавана і адказна зрабіць свой выбар і абараніць яго.

Мы накіроўваем сваю працу на тое, каб дэмакратычныя сілы Беларусі вылучылі адзінага кандыдата ў прэзідэнты, які будзе падтрыманы большасцю грамадства. Для гэтых мэтаў мы лічым неабходным стварыць пад эгідай Сталадзейнічай Нарады дэмакратычных сілаў Цэнтр па каардынацыі работы кандыдатаў у дэпутаты. Толькі аб'яднанымі намаганнямі ўсіх, каму не абыякавы агульныя дэмакратычныя каштоўнасці і лёс краіны, можна зрабіць наша жыццё лепшым. Беларусь павінна стаць цівілізаванай еўрапейскай краінай.

**20 лютага 2005 г., Чарнігаў.**

# ГРАМАДЗКІ АКТЫВІСТ СА СЛОНІМУ ВЫЙГРАЎ СУД У БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ

Грамадзкі актывіст са Слоніму выйграў суд у Беларускага тэлебачаньня Альгерд Невяроўскі, Менск Суд Першамайскага раёну Менску задаволіў пазоў кіраўніка слонімскай грамадзкай арганізацыі "Воля да разьвіцьця" Міхася Варанца да Беларускага тэлебачаньня. Суд прызнаў, што паказаны ў сакавіку 2004 году ў праграме БТ "Панарама" сюжэт абражае гонар, годнасьць і дзелавую рэпутацыю спадара Варанца ды арганізацыі, якую ён узначальвае.

16 сакавіка ў праграме БТ "Панарама" быў паказаны сюжэт гарадзенскага карэспандэнта Мікалая Мельнічэнкі, які сьцьвярджаў, што на грошы праграмы Эўразьвязу TACIS Міхась Варанец наладзіў фінансаваньне апазыцыі.

Разгляд пазову спадара Варанца ў судзе працягвалася два тыдні. Было заслухана многа сьведак і вывучана шмат дакумэнтаў. У выніку Міхась Варанец здолеў даказаць, што распаўсюджаныя ў сюжэце зьвесткі – хлусьня. Судзьдзя Лідзія Цяліца задаволіла пазоў спадара Варанца ды абавязала БТ абвергнуць няпраўду.

Вось як пракамэнтаваў судовае рашэньне Міхась Варанец:

(Варанец: ) "Я лічу, што гэта справядлівае, аб'ектыўнае рашэньне суду. Гэта, у пэўным сэнсе перамога гэтай нашай судовай сыстэмы над сабой. Гэта нармальна".

# А.МІЛІНКЕВІЧ: БЕЛАРУСАМ ПЕРАШКАДЖАЕ ТОЛЬКІ ПАЧУЦЬЦЁ СЛАБАСЬЦІ



**Сяргей Астраўцоў, Горадня**

*21 лютага ў Горадні зьбяруцца мясцовыя лідэры партыяў, якія ўваходзяць у кааліцыю "5+". Папярэдне вядома, што яны маюць вызначыць дату правядзеньня абласнога Кангрэсу дэмакратычных сілаў. Мяркуецца, што ўдзельнікі кангрэсу назавуць кандыдатуру чалавека, які будзе прэтэндаваць на ролю адзінага кандыдата ад апазыцыі на будучых прэзыдэнцкіх выбарах.*

Як вядома, першапачаткова кандыдатаў вылучаюць палітычныя партыі. Пакуль што названы кандыдатуры сталічных палітыкаў, а з рэгіянальных лідэраў у гэтым сьпісе толькі гарадзенец Аляксандар Мілінкевіч. Яго вылучылі дзьве партыі – "зялёныя" і БНФ. Мілінкевіч працуе у "Фондзе спрыяньня лякальнаму разьвіцьцю".

Аляксандар Мілінкевіч кіраваў выбарчай кампаніяй Сямёна Домаша на мінулых прэзыдэнцкіх выбарах. Домаш таксама быў адзіным рэгіянальным дзеячам, які ўдзельнічаў у кампаніі. Аднак адзінага кандыдата ад апазыцыі ў вузкім коле вызначалі пяцёра прэтэндэнтаў, і яны абралі тады Ганчарыка. Меркаваньне Аляксандра Мілінкевіча:

(Мілінкевіч: ) "Домаш сапраўды быў мацнейшы, таму што ў яго былі структуры ў рэгіёнах – у 97 гарадах. У Домаша быў пазытыўны і нэгатыўны рэйтынг лепшы, чым у іншых, і подпісаў за ягонае вылучэньне сабралі больш, чым у іншых. Спрацаваў папросту нейкі эгаістычны прынцып – пры зачыненых дзьвярах вырашылі, што Ганчарык больш прыдатны для тых, што галасавалі".

Аляксандар Мілінкевіч зазначае, што памылка мінулай кампаніі не павінна паўтарыцца. Адзінага кандыдата ад апазыцыі будзе вызначаць Кангрэс дэмакратычных сілаў. Гэта плянавалася і на мінулых выбарах, але не было зроблена.

Паўстае пытаньне: на што можа быць спадзяваньне ў апазыцыі на наступных прэзыдэнцкіх выбарах? Аляксандар Мілінкевіч досыць цьвяроза ацэньвае тое, якой можа быць будучая прэзыдэнцкая кампанія. Вось што ён сам гаворыць пра гэта:

(Мілінкевіч: ) "Я думаю, што ва ўсіх сур'ёзных людзей, хто працуе ў грамадзкіх ці палітычных арганізацыях, няма сумневу ў тым, што сапраўдных выбараў ня будзе. Лічыць галасы пасьля выбараў улада ня стане, яна папросту прызначыць прэзыдэнта. І мэта самая галоўная – у кампаніі ад дзьвярэй да дзьвярэй, каб абысьці як мага больш насельніцтва, і каб гэтае насельніцтва адчула, што нас большасьць, і адчула, што адзіны кандыдат – ён прыстойны і дастойны чалавек, і што за яго можна пайсьці".

Спадар Мілінкевіч зазначае, што дзякуючы такой працы "ад дзьвярэй да дзьвярэй" мінулым разам рэйтынг Сямёна Домаша ўзьняўся з нуля болей як да 20 адсоткаў. Аляксандар Мілінкевіч перакананы ў наступным:

(Мілінкевіч: ) "І калі мы такі настрой пазытыўны выпрацуем у час выбараў, пачуцьцё сілы ў людзей, то ёсьць шанец, што яны выйдуць бараніць свой выбар, як было ў іншых краінах".

# ШТО РАБІЛА БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў БРАЦІСЛАВЕ?

**Алесь Дашчынскі, Менск**

У Браціславе цягам двух дзён закраналася беларуская праблематыка, спачатку на міжнароднай канфэрэнцыі "Новы паход за дэмакратыю", потым – падчас сустрэчы прэзыдэнта ЗША Джорджа Буша з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасьці краін Усходняй Эўропы, сярод якіх былі таксама прадстаўнікі Беларусі. Як ацэньваюць гэтыя падзеі беларускія палітыкі?

У Браціславе знаходзілася даволі прадстаўнічая дэлегацыя грамадзянскай супольнасьці з Беларусі: кіраўнічка ініцыятывы "Мы памятаем" Ірына Красоўская, міжнародны каардынатар "Хартыі-97" Андрэй Саньнікаў, лідэр моладзевага руху "Зубр" Уладзімер Кобец, старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна, дырэктар Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў Алег Манаеў і іншыя. У часе сустрэчы з амэрыканскім прэзыдэнтам Ірына Красоўская заклікала яго садзейнічаць расьсьледаваньню палітычных зьнікненьняў у Беларусі й папрасіла Джорджа Буша паўплываць на Расею.

Актывіст дэмакратычнага руху зь Беларусі Сяргей Мацкевіч, лічыць, што кантакты ў Браціславе былі карысныя.

(Мацкевіч: ) "Вельмі добра, што прадстаўнікі 13-ці краінаў і ў тым ліку Беларусі сустрэліся непасрэдна з прэзыдэнтам Бушам, як ён іх назваў "чэмпіёнамі свабоды". Ад нашай краіны гэта былі Жана Літвіна і Ірына Красоўская. Была маленькая такая нагода выказаць сваю занепакоенасьць сытуацыяй у Беларусі. Потым прэзыдэнт Буш пачаў сваю прамову з таго, што зрабіў такі рэвэранс у іх бок, сказаў, што тут прысутнічаюць барацьбіты за дэмакратыю ў тых краінах, якія яе яшчэ не дасягнулі, і абавязкова некалькі разоў у сваёй прамове ён казаў пра дэмакратычныя каштоўнасьці і пра тое, што мы павінны рух да дэмакратыі не спыняць, і назваў Беларусь адной з тых краінаў, дзе гэтыя перамены мы чакаем у хуткім будучым. Галоўнае, што ён пацьвердзіў тое, што ён сказаў у сваёй інаўгурацыйнай прамове, і таму мы спадзяемся, што гэтая пазыцыя цьвёрдая, і яна будзе адстойвацца".

А што думаюць самі ўдзельнікі браціслаўскіх падзеяў? Міжнародны каардынатар "Хартыі-97" Андрэй Саньнікаў прымаў удзел у міжнароднай канфэрэнцыі "Новы паход за дэмакратыю". Як жа ў Браціславе ўспрымаюцца запэўніваньні афіцыйнага Менску ў тым, што Лукашэнка будзе праводзіць свой палітычны курс да канца?

(Саньнікаў: ) "Можа, яны і маюць рацыю, таму што ён можа ісьці да канца сваім шляхам, але ж гэты канец ужо даволі блізка. Таму што тое, што адбываецца ў сьвеце, выключае той шлях, якім Лукашэнка спрабуе весьці Беларусь. Гэта відавочна, відавочна ў Славаччыне. Славаччына вельмі добры прыклад таго, як краіна, пазбавіўшыся аўтарытарнага Мечыяра, адразу, амаль што імгненна, калі казаць з такой гістарычнай пэрспэктывай, апынулася ў Эўропе і нармальна разьвіваецца".

# ТРАВМИРОВАННЫЙ ПЛЕБИСЦИТОМ СОЦИУМ ЧРЕВАТ ДЛЯ ВЛАСТЕЙ НЕПРЕДСКАЗУЕМОСТЬЮ



**Валерий КАРБАЛЕВИЧ, эксперт аналитического центра «Стратегия»**

Вроде бы выборы и референдум прошли по привычному сценарию. Все как всегда: досрочное голосование, засекречивание информации о количестве избирателей, нейтрализация наблюдателей, объявление об «элегантной» победе.

Однако на этот раз было и существенное отличие от предшествующих кампаний, выигранных Лукашенко. Прежде всего, она прошла при ином уровне электоральной поддержки. И это таит в себе - в той или иной перспективе - опасность для режима.

Когда на референдумах 1995 и 1996 годов, президентских выборах 2001 года президент опирался на реальное большинство, то приписка некоторого число голосов могла бы и не показаться части обывателей большим грехом.

Теперь все по-другому. Опросы негосударственных социологических центров накануне референдума показывали, что Лукашенко не набирает половины голосов.

Опросы, проведенные балтийским отделением Института Гэллапа в первой декаде октября, дали в среднем такие цифры: «за» - 41,4%, «против» - 37%. А «экзит-пол» в день голосования, сделанный этим институтом, дал цифру 48,37% избирателей от списочного состава, проголосовавших «за». Примерно к таким же выводам пришел и московский Аналитический центр Юрия Левады: «42% можно считать верхним пределом поддержки вопроса референдума за неделю до его проведения... За последнюю неделю до голосования она может еще немного подрасти - но в любом случае не достигает «пороговой» величины в 50%».

Таким образом, перед властями встала задача сделать меньшинство большинством. Поэтому и меры пришлось принимать чрезвычайные.

Никогда раньше не оказывалось такого давления на команды оппозиционных кандидатов, на людей, ставивших подписи в их поддержку. Как никогда жестким был прессинг на избирателей в ходе досрочного голосования. Пропагандистская кампания в поддержку вопроса референдума была особенно массированной (по четырем телеканалам), агрессивной и профессиональной. Специально под референдум были созданы новые и полностью мобилизованы старые «лояльные» социологические структуры. Был организован свой «экзит-пол» в противовес независимому.

Когда говорят о фальсификациях, то имеют в виду какие-то махинации в ходе подсчета голосов. В ходе этой кампании избирательные комиссии изобрели ноу-хау. Вернее, массово использовали изобретение, применявшееся ранее лишь частично. Судя по всему, в большинстве округов вообще не считали голоса. Точнее сказать, имитировали подсчет, заранее подготовив итоговый протокол с нужными результатами.

Но создается впечатление, что такое решение было принято в последний момент. Иначе трудно объяснить некоторые действия властей. Например, если было известно, что считать не будут, то зачем нужно было загонять людей в массовом порядке по всей стране на досрочное голосование? Зачем вообще было не регистрировать половину оппозиционных кандидатов, снимать их с избирательной кампании? Ведь ничего, кроме вреда для репутации властей, это не принесло.

Как известно, лучший способ дискредитировать идею - это довести ее реализацию до абсурда. Объявленные итоги референдума свидетельствуют о том, что в администрации президента кому-то явно изменило чувство меры. Даже с учетом искусственного сокращения числа избирателей на 382 тысячи по сравнению с 2001 годом трудно поверить, что в условиях разочарования, апатии, равнодушия и неверия на выборы пришло 90% избирателей. Такой высокой цифры не было за все предыдущие десять лет. (В первом туре президентских выборов 1994 года приняло участие 79% избирателей, в референдуме 1995 года - 65%, в референдуме 1996 года - 84%, в президентских выборах 2001 года - 84% избирателей.)

Еще более фантастической выглядит цифра проголосовавших «за» - 77,3% от списочного состава избирателей. А если брать от числа принявших участие, то получается, что 86% избирателей, пришедших на участки, поддержало предложение, вынесенное Лукашенко на референдум.

Хочу напомнить, что во втором туре президентских выборов 1994 года, когда вера в чудодейственные рецепты Лукашенко по спасению страны была на пике, борцу с коррупцией отдали голоса 80,3% от пришедших на выборы (56% от списочного состава). А на президентских выборах 2001 года глава Центризбиркома Лидия Ермошина объявила цифру 75,7%.

Все это время рейтинг президента преимущественно падал. Вопрос о третьем сроке вызвал ожесточенные споры, большие сомнения даже в среде сторонников Лукашенко. Если бы итоговый показатель находился в районе 55% от списочного состава, в это могли поверить даже оппоненты режима. А утверждать, что 86% пришедших на выборы проголосовали «за» - это значит утратить чувство реальности.

Здесь, видимо, действует логика: чем меньше реальная поддержка, тем сильнее нужно ошеломить общество запредельным результатом. Однако это явный перебор. Власти перегнули палку. Похоже, сами поверили в ту сказочную телевизионную картинку, которая старательно рисовалась для электората. Тем самым они облегчили своим оппонентам задачу ставить результаты референдума под сомнение.

То же самое можно сказать и о выборах в Палату представителей. Давно известно, что у нас вопрос о том, кому быть депутатом, решает не электорат, а Лукашенко. Он еще накануне выборов поставил задачу провести их в один тур, обеспечить там представительство старого состава примерно наполовину, женщин - на треть, и не допустить туда предпринимателей и оппозиционеров. Примерно так и получилось.

Накануне выборов многие политики и эксперты утверждали, что Лукашенко выгодно допустить в Палату представителей несколько оппозиционеров, ибо это, будто бы, поможет ему легитимировать результаты референдума. Происходили даже какие-то утечки информации: якобы на самом верху принято решение кого-то пропустить, назывались даже фамилии. Теперь выясняется, что все это было грамотной кампанией дезинформации, призванной завлечь оппозицию на выборы.

Реальность оказалась более прозаичной и традиционной.

Логика правящей команды проста. По мере неизбежного падения электоральной поддержки будет происходить ужесточение режима. В такой ситуации опасна любая деконсолидация власти. А даже несколько оппозиционеров в Палате представителей могли бы создать шум, слышный далеко за стенами парламента. История деятельности группы «Республика» в этом смысле очень показательна. Три твердых депутата попортили Лукашенко немало крови.

Одним из отличий демократической системы от тоталитарной является естественный процент явки избирателей и аналогичный разброс голосов в ходе электоральных кампаний. Если цифры приближаются к 100% в пользу власти - это очень важный показатель вектора движения страны.

Конечно, можно нарисовать любые цифры. Однако при этом неизбежно возникает проблема доверия народа к институтам государства, что является неотъемлемым элементом легитимности. Считать управляемых простаками опасно для любой власти. В любом случае день 17 октября 2004 года - это момент национальной травмы. А травмированный социум всегда непредсказуем.

# ЯК І ЧАМУ Я ПРАДАЎСЯ ЗАХАДУ

Штатныя каментатары на тэлебачаньні ды радыё ці не кожны дзень упарта і мэтанакіравана з прымітыўна падробленай іроніяй ці сарказмам распавядаюць пра апазіцыйных "запраданцаў", што за трыццаць срэбных манэтаў прадаліся бессаромнаму дзядзечку Сэму. У асноўным гэта альбо былыя паплечнікі самага чэснага прэзідэнта, якія за розныя несумленныя правіны трапілі да яго ў няміласьць і вымушаныя былі прадацца, альбо, мякка кажучы, не зусім здаровыя на галаву людзі. Нармальны чалавек у апазіцыю не пойдзе—цьвердзяць размаітыя каментатары ў адзін голас. І радавы абывацель, які і ёсьць прыкладам нармалёвасьці, у масе сваёй верыць "някупленым прапагандыстам".

Хутка ўжо 17 гадоў, як я стаў апазіцыянэрам. Як я дакаціўся да такога стану? Як вясковы настаўнік рускай мовы і літаратуры забыўся на "вялікі і магутны" і загаварыў на "бедный" беларускай мове? "Альбо бязглуздага хлопчыка ачмурылі нацыяналісты прайдзісьветы, альбо купілі абяцаньнем нейкіх дабротаў заходнія імперыялісты па наводцы сваіх тутэйшых халуёў",—сказаў бы любы афіцыйны аглядальнік. Тым больш, што ім такія ідэі і ў жахлівых снах не з'яўляюцца.

Але сваім досьведам я дзялюся не з гэтымі абмежаванымі істотамі, а з тымі, каму хоць трошкі цікава пра гэта ведаць.

Калі мы гаворым пра апазіцыю, то ў асноўнай сваёй масе трэба казаць пра сьвядомы індывідуальны выбар. У апазіцыю не ідуць натоўпам. У нашых умовах да гэтага трэба дасьпець. Былыя савецкія людзі праз сьвядомы аналіз рэчаіснасьці на нейкім адцінку* свайго жыцьця раптам набываюць пратэстнае здумленьне* і паводзіны. Што ж змушае іх да гэтага? Як у маім выпадку дык гэта—генетычнае неўспрыманьне няпраўды і несправядлівасьці, прага да дасканаласьці*, ісьціны, пачуцьцё ўласнай годнасьці, жыцьцёвы досьвед і веды набытыя пад час навучаньня ва універсітэце.

Пяць універсітэцкіх гадоў на факультэце расійскай філалогіі зрабілі зь мяне не толькі шчырага прыхільніка ўсяго расейскага, але разам з тым навучылі мяне *крытычнаму падыходу* да літаратуры, мастацтва і рэальнага жыцьця.

У пошуках праўды пра сябе і свой народ я пазбавіўся комплексу нацыянальнай непаўнавартасьці, пазбыўся імперскага здумленьня, набыў адчуваньне далучанасьці да вялікага беларускага народу і зразумеў вельмі простыя, але і вельмі істотныя рэчы:

*1. кожны народ мае родную мову, на якой ён толькі і можа сказаць сьвету нешта цікавае пра сябе* (за 200 гадоў русіфікацыі ніводнага значнага твору па-расейску беларусы так і не напісалі), *без нацыянальнай мовы няма і не можа быць паўнавартаснага нацыянальнага чалавека, а рабоў у нас ітак хапае;*

*2. кожны народ мусіць ведаць сваю нацыянольную гісторыю і нацыянальных гістарычных асобаў, якія адстойвалі і адстойваюць агульнанацыянальныя інтарэсы*( чые нацыянальныя інтарэсы адстойваюць ці адстойвалі Лукашэнка і Машэраў? І наогул, у савецкага чалавека ў прынцыпе не можа быць аніякіх інтарэсаў акрамя часовых і ідэалагічных);

*3. кожны чалавек за найвышэйшыя грамазянскія каштоўнасьці мусіць лічыць свабоду, дэмакратыю, правы чалавека і нацы;і*

*4. кожны беларус павінен мець права ў беларускай царкве ці касцёле кожны дзень чуць сваё беларускае слова;*

*5. беларуская культура— аснова для спасьціжэньня сьвет;у*

*6. народу, які не набыў выразнага нацыянальнага аблічча, наканавана блукаць паміж трох яліна;ў*

*7. дэмакратыя—найлепшая форма кіраваньня; вяршэнства закону над свавольствам улады—падмурак дэмакратыі;*

*8. прэзідэнт—усяго толькі часовы, хоць і найвышэйшы джяржаўны чыноўнік, які знаходзіцца ў мяне ва ўслужэньні.*

Гэткія і іншыя агульначалавечыя ісьціны ў нармальнай дзяржаве нармальныя бацькі і настаўнікі павінны прышчапляць дзеткам, як засьцярогу ад рабства і халуйства з самага дзяцінства. І тады ніводнаму прэзідэнту і ў галаву не прыйдзе балатавацца на трэці тэрмін, а ніводзін выбарнік не дадумаецца прагаласаваць за выразна недэмакратычныя памкненьні* амбіцыйных кіраўнікоў.

Заходнія краіны на сёньняшні дзень, як бы не імкнуліся тутэйшыя тэлеканалы пераканаць нас у адваротным, ёсьць для ўсяго сьвету прыкладам найлепшай арганізацыі чалавечай жыцьцядзейнасьці. Таму апазіцыянер—гэта не здраднік радзімы, а сапраўдны беларускі грамадзянін, які зразумеў вартасьці заходняй дэмакратыі і імкнецца пабудаваць праваўую, дэмакратычную дзяржаву на Бацькаўшчыне.

Размова ж пра прадажнасьць апазіцыі—усяго толькі дэмагагічнае сьцьверджаньне ўлады, якая з-за ўласнага страху не можа дазволіць нават эпізадычнай прысутнасьці апазіцыйных палітыкаў на экране ці ў эфіры. Калі б такія выступы адбываліся, народ зусім іншымі б вачыма зірнуў на нашу рэчаіснасьць*.

Убоства, правінцыйнасьць, адсутнасьць свабоды, пячорнае* здумленьне, якія пануюць навокал, у хуткім часе прывядзе грамадства альбо да яшчэ большай дэградацыі, альбо стымулюе масавае далучэньне да шэрагаў апазіцыі новых прыхільнікаў. І тады апазіцыя стане ўладай.

**С. Горкі.**



Заснавальнік і рэдактар: Сяржук Салодкі.
Адрас рэдакцыі: г. Віцебск,
3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА "Фонд імя Льва Сапегі".
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 290 асобнікаў.